Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 26. Вільня, Пятніца, 28-га лістапада 1924 г. Год I.

## Замацаваньне зямлі.

Нязвычайна вялікае вагі вестку падаем мы тутака побач: Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Радавае Беларусі зацьвярдзіў новы зямельны кодэкс, якім, фактычна, дае беларускаму сялянству *права, раўназначнае ўласнасьці на зямлю.* Гэтак—пасьля нацыяналізацыі вялізарных дворных абшараў—зямля ў Радавай Беларусі сталася ўласнасьцяй тых беларускіх сялян-гарапашнікаў, якія сотні гадоў палівалі яе сваім крывавым потам.

Так закончылася ў Беларусі старая спрэчка паміж сацыялістычнымі партыямі аб тым, ці падзел зямлі паміж працоўным сялянствам павінен быць зроблены на праве ўласнасьці, ці мае быць абаперты на прынцыпе супольнага, грамадзкага, нацыянальнага ўладаньня, што мела быць пераходнай ступеняй і да *калектыўнае працы на зямлі.* У гэтай спрэчцы расейскія сацыялісты, хацеўшы перасадзіць у наш край вялікарускую „общыну“, асабліва востра нападалі на беларускія партыі, якія, лічучыся з тутэйшымі варункамі, systэмай гаспадаркі і абапёрты на гэтым і на адвечных традыцыях сялянскай псыхалёгіі, прызнавалі патрэбным ісьці насустрэчу трэбаваньню нашага працоўнага народу: *зямлі—бяз выкупу на ўласнасьць!*

Тое, што пастанова найвышэйшае ўлады, Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі зроблена (ведама, не бяз згоды ўраду СССР!) *пасьля сямігадовых калектывістычных экспэрымэнтаў* у зямельным пытаньні, паказуе зусім відавочна, што правадыры беларускага народу *правільна* ацэнівалі палажэньне зямельнае справы ў Беларусі: ня гэтая механічная дарога вядзе сялянства Беларусі да калектывізму.

Пастанова беларускага ЦІК-у мае вялізарнае значэньне ня толькі з пункту гледжаньня тэй ці іншай тэорыі, але і з пункту гледжаньня інтарэсаў нашага сялянства, як сацыяльнае клясы і як нацыянальнай адзінкі. Зямельны кодэкс праводзе *натуральную мяжу*, якое нішто ня здолее сьцерці, паміж землямі двух братніх, але такіх розных народаў: *беларусаў і вялікарусаў.* На захад ад гэтае мяжы будзе панаваць прыватная сялянская зямельная ўласнасьць, як і ў другіх заходніх землях Эўропы; на ўсходзе ад яе астанецца адвечная вялікаруская „общына“ з грамадзкай уласнасьцяй.

Так індывідуалізм беларускага селяніна і асаблівыя варункі яго эканамічнага жыцьця вызначаюць усходнюю мяжу Беларусі. Але ня трэба забывацца, што *ня ўсе ўсходня-беларускія землі ўвайшлі ў склад БСРР*: 74,000 кв. вёрст беларускае тэрыторыі з трыма міліёнамі насяленьня ўсё яшчэ астаюцца ў межах Маскоўшчыны і, значыцца, *не падыходзяць пад дзейнасьць новага беларускага кодэксу.*

Сказаўшы А, трэба сказаць і Б. І Радавая Беларусь—у сувязі з новым зямельным кодэксам — павінна дабіцца аб'яднаньня пад сьцягам БСРР усіх беларускіх земель на ўсходзе. Дый мы пераканаНы, што беларуске сялянства на гэных землях і *само падыме свой голас* у гэтай справе і даб'ецца далучэньня да Менскага цэнтру.

Гэтак менскі дэкрэт меціме для Беларусі вялізарнае, гістарычнае значэньне: пасьля абвяшчэньня БСРР гэта — найвялікшы акт у жыцьці Радавае—дый ня толькі Радавае, але і *ўсяе Беларусі.*

## Новы зямельны кодэкс у Радавай Беларусі.

„Известия“ ў нумары з 5 лістапада друкуюць гэткую тэлеграму:

**Менск**, 3 лістапада. Сэсія ЦІК-а Беларусі зацьвярдзіла даклад народнага камісара зямляробства аб новым зямельным кодэксе Беларусі.

Ад часу пашырэньня межаў Беларусі мелі сілу два зямельныя кодэксы: на тэрыторыі старой Беларусі—у Меншчыне—беларускі кодэкс, а ў Вітабшчыне, Гомельшчыне і Смаленшчыне — кодэкс С.С.Ф.С.Р. (расейскі). Асноўная розьніца паміж абыдвума кодэксамі—у тым, што беларускі кодэкс датарнаваны да падворна-ўчастковае формы карыстаньня зямлёй, расейскі—да „общынай“; у Беларусі-ж „общыны“ няма.

У Беларусі няма на практыцы перадзелаў. **Селянін Беларусі**, прывыкшы карыстацца сталым участкам зямлі, **хоча мець пэўнасьць**, што карыстаньне яго **ня будзе нарушацца**, што ён гэтую зямлю можа спакойна выраблядь і ўдабрываць.

Новы зямельны кодэкс Беларусі якраз і **замацовывае за селянінам той кусок зямлі, на якім ён працаваў дагэтуль.**

Ведама, у гэта ўносіцца папраўка, якую падказывае бальшавіцкая клясавая палітыка: непрацоўныя гаспадаркі, у якіх прастор зямлі перавышае працоўную норму, абрэзываюцца.

За ўсей-жа вялізарнай большасьцяй працоўнага сялянства Беларусі замацовываецца тая зямля, якой яно карысталася дагэтуль.

## Ці запрауды — трыумф?

„Dz. Wil.“ „з трыумфам падае з органу „Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі“ „Чырвоны Сьцяг“ гэткі адрывак:

„Аружнае паўстаньне проці ўраду і проці капіталістычнага ладу трэба лічыць спосабам, які павінен зрабіць апошні ўдар. Ацэніваючы міжнародавае і ўнутранае палажэньне Польшчы, трэба сцьвярдзіць, што час паўстаньня яшчэ не надышоў. Трэба сабе сказаць, што аружнае паўстаньне сялянства ў Заходняй Беларусі ў сучасны мамэнт ня можа ўдацца, а ў барацьбе, якую прыходзіцца весьці ў сучасных варунках, мы-б толькі змарнавалі найбольш рэвалюцыйныя сілы беларускай вёскі.

Далей „Dz. Wil.“ піша:—

„З прычыны немагчымасьці тасаваньня дывэрсыйнай акцыі, камуніст. партыя высоўвае мірную прапаганду, зьмяшчаючуюся ў байкатаваньні польскай школы, адмове ад платы падаткаў і—дэмаралізаваньні дзяржаўнага апарату ўсемі магчымымі спосабамі. Калі нашы дзяржаўныя чыноўнікі на Крэсах здэмаралізуюцца аканчальна, калі будуць дэзарганізаваны школьныя ўлады (польскія) масавымі дамаганьнямі беларускіх школаў, калі, нарэшце, сяляне страцяць ахвоту плаціць падаткі, тады,—кажа Цэнтр. Камітэт Партыі Камун. Заходняе Беларусі,—прыдзе час да новай „дывэрсыйнай акцыі“.

„Dz. Wil.“ кажа, што „беларускія камуністы б'юць адбой“—у выніку прынятых мераў абароны польскіх граніцаў.

Мы ня маем магчымасьці праверыць цытаты „Dz. Wil.“. Можам толькі, карыстаючыся пададзеным у польскай і беларускай прэсе матар'ялам, сцьвярдзіць, што:

1) „Дэмаралізацыя“ крэсавага чыноўніка, як даўно сьцьвярджае ўся польская прэса—бяз розьніцы партыяў,—усё расьце...—Надрукаваная намі ў папярэднім нумары гісторыя вышэйшых чыноў віленскай крымінальнай паліцыі—найярчэйшы доказ гэтага.

2) Байкот і дэзарганізацыя польскай школы на абшарах, заселеных набіраючым усё больш нацыянальнай сьвядомасьці беларускім народам, ды „масавыя дамаганьні беларускіх школаў“ будуць бязспрэчна ўсё больш расьці, — і гэтага росту ня спыніць і ня зьніштожыць ніякая — нават да рэшты здэмаралізаваная адміністрацыя.

3) „Што датычыць неахвоты плаціць падаткі“, дык гэтая „**неахвота**“ стаіць у простай залежнасьці ад **магчымасьці** плаціць... А гэтая апошняя ў беларускай вёсцы, згалеўшай ад малазямельля, набораў, грабяжоў, уціску і вызыску з усіх бакоў, ад праяваў дэмаралізацыі адміністрацыі, ад ліцытацыяў сялянскае маемасьці і гэтак далей — дайшла да мінімуму, няведамага наагул у цывілізаваных краёх...

Як ведама, для гэтай „ахвоты плаціць падаткі“ нават расейскія царскія законы ставілі зусім выразныя межы і рубяжы, забараняючы прадаваць прымусова на аплату падаткаў пэўны мінімум гаспадарчага інвэнтару—жывога і мёртвага, неабходнага для падтрыманьня сялянскае гаспадаркі. Польскія-ж „дэмакратычныя“ ўлады жадаюць, каб гэтая „ахвота плаціць падаткі“ йшла прынамся ў беларускага селяніна!—шмат далей—да поўнага зруйнаваньня ўсей гаспадаркі.

Гэта-ж толькі-што было сцьверджана ў нашай карэспандэнцыі з Пружанецкага павету. Улада прадае апошняга каня на ліцытацыі, — і само сялянства, ды нават мясцовыя жыды, разумеючы небясьпеку і шкоду ад гэтага (лепш, як „здэмаралізаваная адміністрацыя!) **ня купляюць нічога на гэтай ліцытацыі беларускага сялянскага дабрабыту.** У выніку-ж урадавае палітыкі ў гэткім духу на месца кожнага зруйнаванага беларуса зараз-жа садзіцца польскі асаднік.

Ужо з гэтага прыкладу ясна, што ўсе тры галоўныя працэсы, аб якіх гаворыць **згодна** „Чырвоны Сьцяг“, так і „Dz. Wil.“,—усе гэтыя працэсы растуць і пашыраюцца, **зусім незалежна** ад усіх „hasel“, ці „дырэктываў“, „кіруючых дывэрсыйнай акцыяй“ камуністычных цэнтраў. **В.**

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

скае „Słowo“ „зблутала“ і пісала аб арышце самога дэпутата Вежбіцкага!) Зроблены рад вобыскаў у школах, кватэрах грамадзкіх дзеячоў і ўстановах. Сканфіскавана шмат дакумэнтаў. Латвійская прэса заяўляе, што выкрыта „вялікая акцыя прапаганды проці Латвійскай дзяржавы“.

### Выбух складу амуніцыі пад Коўнай.

На прадмесьці Коўны Алексота здарыўся выбух у складах амуніцыі. 4 асобы забіты, шмат раненых.

### Магіла Гедыміна.

Каля Вэлёны (у Літве) знаходзіцца гістарычнае мейсца—магіла Гедыміна. Тут Гедымін паў у баю з крыжакамі і быў на мейсцы пахаваны.

Літоўскае „Таварыства Прыхарошаныя Літвы“ ўзяло пад сваю апеку гэтае мейсца і вясной маніцца распачаць тут буцову вялікага памятніка Гедыміну—за грошы, якія будуць сабраны падпіскай.

### Экспозэ прэм‘ера Баварыі.

Баварскі прэм‘ер Тэльдт у сваім экспозэ заявіў, паміж іншым, што, прымаючы аснаўную ідэю Лігі Народаў, ён лічыць неадпаведным у сучасны мамэнт увaход у Лігу Нямеччыны.

### Надужыцьці бэрлінскай паліцыі.

Начальнік падзелу чужаземцаў у бэрлінскай паліцыі арыштаваны за хабары, якія ён пагрозамі вымагаў у чужаземцаў—пераважна расейцаў—за „karty pobytu“...

### Проці фашыстаў.

Рад дэмакратычных (буржуазных) групаў апазіцыі ўтварылі Лігу (блёк), якая атрымала назоў „Нацыянальнага Аб‘яднаньня“.

### Партыя Орляндо—проці фашыстаў.

Вядомы італьянскі палітычны дзеяч Орляндо стварыў новую дэмакратычную партыю, якая, адносна да ўраду Мусоліні, заняла незалежна — апазіцыйнае становішча.

### Дыктатура Пашыча.

Уся апазіцыйная прэса Югаславіі абураецца на тое, што кароль з Пашычам склікаюць новы парлямант толькі на 7 сакавіка. Гэта значыць, што 4 месяцы ўвесь край будзе пад дыктатурай Пашыча.

### Замах на Радіча.

Карэспан. „Сегодня“ піша, што ў Белградзе ходзяць чуткі аб тым, што афіцэрская арганізацыя, блізкая ад сэрбскай каралевы, выслала ў Фіумэ (Р,еку) наёмных забойцаў, якія маюць дâручэньне забіць уцёкшага туды Радіча.

### Апазіцыя ў Чэхаславацкім парляманце.

На апошніх паседжаньнях парляманту ў часе бюджэтнай дыскусіі сьпярша немцы асобна, а пасьля прадстаўнікі славакаў, вэнграў, русінаў і прыкарпацкіх аўтанамістаў выступілі з дэклярацыямі, у якіх заявілі, што, ня хочучы йграць роль статыстаў (бяздзейных і бязсільных учасьнікаў) у справе прыняцьця бюджэту, яны ўсе ўстрымліваюцца нават ад учасьця ў бюджэтнай дыскусіі.

### Абмежаваньні для чужаземцаў у Англіі.

Новы англійскі ўрад маніцца пераглядзець істнуючы парадак выдаваньня дазволу на прыезд у Англію чужаземцаў, а таксама і на пабыт ужо асеўшых у ёй нямецкіх і расейскіх камуністаў, якім пасьля дазволенага тэрміну іх пабыту будзе запрапанавана пакінуць край...

### Новы ўрад у Турцыі.

Турэцкім прэм‘ерам Ангорскае Сабраньне выбрала свайго старшыню Фэті-Бэя.

### Вайна ў Марокко.

Бітвы ў Марокко адбываюцца ў страшэнна цяжкіх варунках, бо надыйшоў пэрыяд дажджоў. Гішпанскія войскі сьпешна адступаюць на поўнач.

Як наказуюць англійскія газэты, у хуткім часе мае быць зроблена замірэньне паміж гішпанцамі і войскам Абдул-Керыма. Гэта значыць, што гішпанцы папрасілі „пардону“.

### Наступнік Юза.

Прэзыдэнт Амэрыкі назначыў дзяржаўным сэкрэтаром (міністрам) загранічных спраў—на месца вядомага Юза—б. начальніка ўсходняга дэпартамэнту Мак-Мюрэя.



## ХРОНІКА.

**„Уласныя тэлеграмы“ з Менску.** Віленскае „Słowo“ ад часу да часу дае жменю вестак з Радавае Беларусі то проста „з Менску“, то „з пагранічча“. У нумары гэтае газэты з аўторку, 25 лістапада, паміж іншым, зьмешчана „тэлеграма“, у якой гаворыцца, што „былы міністар „ураду“ Ластоўскага, Д-р Цьвікевіч“ выступае цяпер у Менску, як „муж навукі“: „надовячы яго выбралі за старшыню сэкцыяў краязнаўства і мэдыцыны ў Інстытуце Беларускае Культуры“. А далей, на аснове гэтага, „уласны карэспандэнт“ газэты робіць вывад: „Інстытут Беларускае Культуры нядаўна зроблены дзяржаўным і, апрача сваей навуковай працы, мае канцэнтраваць беларускую прапаганду на Польшчу“.

Гэты ідыатычны вывад аб „прапагандзе“ чыста навуковае ўстановы „ўласны“ карэспандэнт „Słowa“ пабудаваў на тым, што б. міністра ўраду Б. Н. Р. пры Ластоўскім і цяперашняга старшыню таго-ж ураду, *Аляксандра* Цьвікевіча, па прафэсіі юрыста, які жыве ў *Коўні*, зьмяшаў з другім Цьвікевічам—*Іванам*, па прафэсіі *доктарам мэдыцыны*, які жыве ў *Менску* і цяпер і выбраны за старшыню сказанае сэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры!

„Уласныя“ тэлеграмы „Słowa“ з Радавае Беларусі і з „пагранічча“ дужа напамінаюць рассыланыя так-званым Варшаўскім Беларускім Камітэтам ладноўскія выдумкі аб тым, быццам грам. Ластоўскі паехаў у Менск рабіць „беларускае паўстаньне“ і „вясьці беларускія палкі проці Польшчы—у паразуменьні з Літвой“. Як ведама, грам. Ластоўскі і ня думаў ехаць у Менск, а працуе ў Коўні, як літоўскі ўрадовец....

Гожа было-бы запытацца ў баламутаў з „Słowa“: ці гэны „ўласны“ карэспандэнт з „пагранічча“ не называецца прыпадкам... **ФФФФФ**?!

**Сход студэнтаў.** У нядзелю, 30/XI с. г. ў 6 гадз. п. п. у памяшч. Ц. Б. Ш. Рады (Віленская 12—6) адбудзецца **гадавы** агульны сход сяброў Бел. Студ. Саюзу.

Парадак дня: 1) Справаздача Ураду і рэв. кам. за мінулы год. 2) Выбары новага Ураду. 3) Бягучыя справы.

Уваход толькі для Сяброў Саюзу.

**Папраўка.** У карэспандэнцыі з Сьвянцяншчыны „Крэсавыя Культуртрэгеры“, надрукаванай у № 16 „Сялянскае Праўды“, з прычыны нявыразнасьці рукапісу і карэктарскага недагляду, аказаліся дзьве абмылкі. У чацьвертым абзацу павінна быць: „агентаў з палітычнага **ці крымінальнага** аддзелу“ (прапушчаны словы, набраныя жырным шрыфтам), а ў чародным абзацу—замест „міністра **асьветы**“ павінна быць „міністра **зямельных спраў**“.

## Адкрытае пісьмо.

Гэтым даводжу да ведама паважаных чытачоў і паноў з Беларускага Грамадзянскага Сабраньня, што, ня могучы згадзіцца з палітычным напрамкам, які абабрала сабе Бел. Грам. Сабр., ідучы ў разрэз з беларускім грамадзянствам, вядучы шкодную палітыку для інтарэсаў беларускага народу, людзьмі, дзеля асабістых індывідуальных карысьцяў парваўшымі лучнасьць з запраўднымі беларускімі арганізацыямі. Хаця Бел. Гр. Сабр. і лічыць сябе за ніейкую культурна-ідэйную ўстанову, аднак за час сваей бытнасьці працаўніком Грамадзянскага Сабраньня, апроч розных акультуральных і амаральных — (паводле сваіх спасьцеражэньняў, як і голасу, падаванага часта ў прэсе),—спосабаў здабываньня грошы,—больш нічога ня бачыў.

Газэта „Грамадзкі Голас“, выдаваная за гэтыя грошы, стараецца ня інакш, як толькі падкапаць агульную беларускую справу. Другія выходзячыя з Бел. Грам. Сабр. арганізацыі, як Часовая Бел. Рада на чале са знаным Паўлюкевічам і нова-сьпешная арганізацыя пад назовам „Прасьвета“, ні да чаго лепшага, як Бел. Гр. Сабр., ня йдуць.

Працаваў я, ня ведаючы добра мэтаў Бел. Грам. Сабр., аж пакуль добра не ўясьніў сабе справы. Адмаўляўся ад прапанаваньняў, лекцэважыў і пакінуў даручаную мне працу дзеля нязгоднасьці сваей з мэтамі і напрамкам палітыкі Бел. Гр. Сабр., а гэтым аканчальна пратэстую проціў мэтадаў барацьбы з віднымі старымі беларускімі працаўнікамі і законнымі прадстаўнікамі беларускага народу—пасламі ў Сойме Рэчыпаспалітай.

Не згаджаючыся з усімі гэтымі шкоднымі праявамі Бел. Грам. Сабр., не хачу надалей мець нічога супольнага з людзьмі, якія вядуць працу ў Бел. Гр. Сабр., або ў зродненых з Бел. Гр. Сабр. іншых установах і ўсім тым, якім паны з Бел. Грам. Сабр. заманчывымі пекнымі славамі суляць „добрыя рады“, перад тым чым да іх пайсьці, раджу добра разважыць. Пэўне-ж, трудна спадзявацца на абяцанкі, калі яны не выпаўняюцца, бо колькі-ж „Школьная“ Камісія Белар. Гр. Сабраньня адкрыла да гэтай пары школаў? Здаецца, што ніводнай. Ці-ж адкрыла яна курсы беларусазнаўства, якімі вельмі пахвалялася газэта „Грамадзкі Голас“? А тэатральны аддзел, замяніўшы канцэртную салю на салю для ігры ў „лото“, рознымі выходзячымі з гэтага авантурамі добра праславіўся, як голасна апісаны ў прэсе „напад бандытаў“ на Бел. Гр. Сабр. Нават і Улада ў далікатным абходжаньні

## Цэнтральная Беларус. Школьная Рада

гэтым заклікае ўсіх сяброў Т-ва Беларускай Школы ў Вільні на агульны сход 30-га гэтага лістапада а 2-ой гадзіне вечара ў памешканьні Ц.Б.Ш. Рады (Вільня, Віленская 12, пам. 6). Калі на азначаны час ня прыбудзе ўстаноўленага ліку сяброў, агульны сход адбудзецца 14-га сьнежня гэтага ж году а тэй самай гадз. ў памешканьні Школьнай Рады, бяз увагі на лік прыбыўшых сяброў. Парадак спраў: 1) Справаздача за мінуўшы год, 2) Давыбары сяброў Школьнай Рады і 3) Бягучыя справы.

*Цэнтр. Беларуская Школьная Рада.*

змусіла прыкрыць гэтую ігру. Усё гэта добра паказвае, што такое Бел. Гр. Сабр. і да чаго яно кіруецца, аб чым публічна змушаны падаць да ведама беларускага грамадзянства.

Прыміце шчырые мае замярэньні, пане редактару, і не адмоўце надрукаваць гэтае маё пісьмо ў паважанай Вашай газэце „Сялянскай Праўдзе“.

З пашанай **Т. Куніцкі.**

19/XI 1924 г.

Падаем гэтае „адкрытае пісьмо“, як цікавы матэрыял дзеля характэрыстыкі „працы“ ўслаўленае ўжо шулерні. Дзіўна толькі, што аўтар **толькі цяпер** заяўляе аб тым, аб чым пісала нават польская прэса ўжо даўно... *Рэд.*

## Карэспандэнцыі.

### Імкненьне да роднае школы.

(*вёскі: Угрынь, Залацеева, Грабава, Дзярэчынскае гміны, Слонімскага павету*).

У кожным нумары „Сялянскае Праўды“ прыходзіцца чытаць аб тэй барацьбе, якую вядзе беларускі народ за родную школу. Мне пры гэтым прыходзе на памяць Сенкевіча „Z dziennika Poznańskiego Nauczyciela“, бо і мы, беларусы, перажываемо тое самае, што перажываў некалі ў Пазнаншчыне той хлопец-паляк, які меў імкненьне да навукі ў сваей роднай мове, але немцы—тагачасныя гаспадары Пазнаншчыны—не пазвалялі вучыцца дзеткам-палякам у іх матчынай мове.

Цяпер—пад Польшчай—і нашы беларусы ўзяліся самы за навуку сваіх дзетак. Не зважаючы на тое, што ў некаторых вёсках, як напрыклад: в. Угрынь, Залацеева—ёсьць „Państwowe szkoły“, але гаспадары гэтых вёсак, як роўна і ў вёсках Савічы, Грабава, Букштава, Котчынь—катэгарычна адмовіліся ў гэтым школьным годзе—пасьля выданьня „языковых“ законаў—пасылаць сваіх дзетак у польскую школу, вынікі гэтага вядома якія. Школьная ўлада карае штрафам бацькоў дзетак, і ўжо гаспадары вёсак Малы Угрынь, Вялікі Угрынь, Залацеева пакараны кожны па 12 злотых за непасыланьне дзяцей у школу.

Не зважаючы на тое, што цяпер вельмі цяжка жыць, што трэба плаціць вялікія падаткі, што некаторыя гаспадары засталіся бяз будынкаў ад вайны, не зважаючы на ўсё гэта вышэйпералічаныя вёскі напісалі прыгавары аб адкрыцьці ў іх беларускіх школ. Гэтыя прыгавары паслалі да Школьнага Інспэктара і да Школьнае Рады ў Вільні, але інспэктар да гэтага часу (прайшлі 2 месяцы!) не дае дазволу адчыніць беларускую школу.

Тады жыхары вёсак Грабава і Малы Вугрынь нанялі вучыцялёў і на свой кошт распачалі навуку сваіх дзетак пабеларуску, ды з гэтага часу ні адзін вучань не пайшоў у польскую школу. Гэта вельмі не спадабалася вучыцелю польскае ўрадавае школы, які зараз-жа зрабіў заяву, каму належыць. Дык вось, 17 гэтага месяца прыватны вучыцель вёскі Грабава, Янка Дожын вярнуўся па лекцыях дадому, у вёску Савічы. Па дарозе спаткаў паліцыянта, які ехаў у Грабава. Дапытаўшыся ў Дожына, хто ён, куды йдзе, скуль і даведаўшыся з гэтага, што Янка Дожын той самы вучыцель, які распачаў навуку ў вёсцы Грабава пабеларуску, вярнуўся з ім у вёску Савічы, паклікаў солтыса і двух сьведкаў і запатрабаваў ад Дожына ў прысутнасьці гэтых сьведкаў даць „zabowązanie“ на пісьме, што ён ня будзе вучыць дзетак пабеларуску. Вучыцель Дожын катэгарычна адмовіўся даць гэткую падпіску, але ўсё роўна пратакол быў напісаны і падпісаны замясьціцелем.

Ад Дожына „блюститель порядка“ паехаў у вёску Малы Вугрынь, гдзе вучыў дзетак прыватны вучыцель Кузьма Ламша. Яго прымусілі выдаць падпіску, але, не зважаючы на ўсё гэта, як Ламша ў Угрыні, так Дожын прадаўжаюць навуку. Якія будуць з гэтага пасьледзтвы, невядома; можа прыдзецца пазнаёміцца яшчэ і з „панскім хлебам“, пакуль пападзе гэта вестка ў газэту!

Цяпер вядзецца сьледзтва, хто зьяўляецца галоўным „заправілаю“ і ініцыятарам адкрыцьця беларускіх школ.

Пры нагодзе варта адзначыць, як ідзе навука ў тутэйшых польскіх школах. Для прыкладу, скажу пра Вугрыньскую школу. Трэці год тут вучыцелем нейкі Бедронь спад Карпат. Як гаворыцца, „ні бэ, ні мэ“ не разумее беларускае мовы, а дзеткі не разумеюць яго.

Ну, і якая тут можа быць навука? З прычыны ўзаемнага неразуменьня, а яшчэ больш з прычыны таго, што „pan Biedroń“ чалавек нэрвовы і зусім ня ўмее вучыць, — ён прымушае вучняў чысьціць яму бульбу, хадзіць па вёсцы за прадуктамі для яго, б'е дзяцей да бяспрытомнасьці, бяз жаднае прычыны. А пра яго жонку, дык няма чаго і гутарыць. Гэта кабета, якая ня мае пашаны ня толькі да людзей, але нават да сабе самой. Кіраўнічка кожны дзень яўляецца ў школу яго жонка і сама найбольш вучыць, хаця па закону ня мае права нават хадзіць на лекцыі. Сяляне вёскі Вугрынь, напісалі і паслалі на гэтых днях да Школьнага Інспэктара ў Слонім прыгавар, у якім заявілі, што хай іх караюць, штрафуюць па дваццаць разоў, а яны ўсё роўна ня будуць пасылаць сваіх дзетак, калечыць у польскай школе. Цяпер школа пустуе, бо ходзяць толькі... 2 вучні!..

А колькі вучыцялёў ёсьць беларусаў з доўгаю практыкаю, якія па 10—20 гадоў працавалі і цяпер сядзяць бяз працы? У аднэй толькі вёсцы Угрынь ёсьць 5 вучыцялёў, якія скончылі вучыцельскія сэмінарыі, а адзін скончыў Віленскі Вучыцельскі Інстытут. Усе яны па 10—15 гадоў былі вучыцялямі і маглі-бы прынясьці вялікую карысьць на полі працы ў школах. Але, заместа даць ім пасаду, яны цяпер рахуюцца „на ўчоце“ ў палітычнай паліцыі!.. У іх робяць вобыскі, арышты, бяруць ад іх падпіскі аб нявыезьдзе. Так у Данілы Дожына восеньню мінулага году быў вобыск; нічога не знайшлі, але ўсё роўна яго арыштавалі і пратрымалі ў Слоніме 4 дні. У Янкі Дожына таксама быў два разы вобыск па даносу арганістага Дзярэчынскага касьцёла. Шукалі аружжа, праклямацыяў, хаця нічога не знайшлі, але Дожын дастаў 5 дзён арышту.

**Беларус.**

## Як адчыняюць беларускія пачатковыя школы.

*(В. Вялікая-Слабада, Наваградзкага пав.).*

З беларускае газэты „Сын Беларуса“ я даведаўся, што можна адчыняць беларускія школы. Сабраліся бацькі дзяцей школьнага ўзросту, зрабілі два прыгавары, сцьвярдзіў іх вясковы солтыс, Юрка Мароз, і пайшоў я з прыгаварам у воласьць, каб сцьвярдзіць там подпісы на іх.

Там мне сказалі, каб я іх перапісаў чарнілам (былі напісаны хімічным алавіком). Вярнуўся, зрабіў і пайшоў ізноў. Сказалі: прыйдзі другі раз. Пайшоў другі раз; кажуць, што ня трэба сцьвярджаць, бо школьны інспэктар прыме і так. Паехаў я ў павет да інспэктара, — адмовіў. Вярнуўся ў гміну і прыстаю, каб зноў сцьвярдзілі; адмаўляюцца, бо няма распараджэньня вышэйшае ўлады.

Гэтакім спосабам, я хадзіў балей дзесяцёх разоў у гміну і пяць разоў у Наваградак — да школьнага інспэктара і, не дабіўшыся патрэбных вынікаў, я прыехаў у Вільню—у Белар. Цантральную Школьную Раду, каб атрымаць параду.

**Паўнамоцнік.**

## Праз сорак гадоў адбудуемся!

*(М. Далятычы, Наваградзкага пав.).*

Кепская ў нас справа школьная, але ня лепшая, калі йшчэ ня горшая, справа і з адбудоваю. Сусьветнаю вайною зьнішчана балей, як 90 гаспадароў. А за апошнія чатыры гады здалелі атрымаць дрэва толькі дзевяць жыхароў, ці адна дзясятая частка. Калі і далей будуць гэтак даваць, пасьледнія дзевяць здалеюць атрымаць лес аж праз сорак гадоў. Але хто пражыве ў гэтакіх варунках да ста гадоў? Каму вялікі клопат, калі мужык прастудзіцца, захварэе, ды памрэ? Нікому.

Надта рупяцца памагчы нам дастаць лес наша „старуха“ рада і гмінны ўрад. — Гэта нашае паважанае вялікімі і малымі панамі начальства! А за што паважанае? За старасьць. А што яно старое, дык гэта відаць па дзецях: у адных Далятычах мае ўжо праўнукаў (чытай: выбралі трэцяга солтыса!) А хто цікавы і хоча знаць месяц і год нарадзін іх, дык хай зьвернецца да таго, хто іх хрысьціў, а я ня помню. Ведаю толькі, што нарадзіліся яны за панаваньня Я. Пілсудскага.

Далятынцы іншы раз пішуць бланкі на лес, ці пазыку. Адны іх пісалі ўжо месяцы два і болей, другіе меней. Але яны і цяпер спакойненька, ціхонька ляжаць у гміне. Куды ім сьпяшацца? У гміне работы шмат, часу няма. Мусіць тагды будзе, як ізноў цёпла стане, а нашто тагды хата? — скажуць. Так абыдземся. Чатыры гады абхадзіліся, а хіба-ж гэта доўга?

Але затое падаткі; дык не залежваюцца ў „старухі“. Яна зараз расчыніць, сьпячэ, парэжа і людзі смакуюць. Толькі кажуць, што „за салодкія“,—усё нутро паляць. А ня відзяць, што пасьледні падатак „samaistny“ дзьве разумныя гаспадыні салілі: наша Любчанская рада і наш Наваградзкі павятовы соймік. Рада назначыла на дзесяціну 70 грошаў, а сойміку паказалася мала, дык яшчэ падмахнуў па дваццаць грошаў, чуць-чуць, што ня кругла.

**Далятыцкі бадзяка.**

## Жабраваць ідзі, а плаціць мусіш!

*(З Лідзкага пав.).*

6 лістапада с. г. войт з пісарам, сьцягваючы страхоўку ў в. Агародніках, зайшлі да аднэй беднай удавы—А. З., каторая грошы не дала, бо ня мела,—пагрозы-ж пана войта, што забярэ падушку, засталіся пустымі, бо й падушкі ня было.

Калі-ж бедная жанчына, пачала прасіць войта звольніць яе ад страхоўкі, дык пан войт сказаў: „жабраваць ідзі, а страхоўку плаціць мусіш!“

**А. З.**

## Дармавыя „złote“.

*(Маўчадзкая гміна, Слонімскага пав., в. Перховічы).*

Ёсьць у нас многа інвалідаў,—удоў і сірот, але польскіх інвалідаў усяго тры: адзін без нагі, у другога выбіта куляю вока, а ў трэцяга... ў трэцяга нічога!.. Кажуць мэдыцынскія камісіі, што ў яго атручываючым газам выпалены вочы,—хаця ён усё добра бачыць і ніводнага дня ня быў на пазіцыі, а служыў у ахвіцэра за дзяньшчыка і трохі быў у шпіталі. Праўда ў яго вочы трохі чырвоныя, але з гэтакімі ён урадзіўся.

Польскі „інвалід“ — Кастусь Верабей—дастае дапамогу 115 złotych. Перад палучкаю ў яго чырванеюць вочы, бо ёсьць з чаго: дастае дарэмныя грошы на сябе здаровага і на ўсю здаровую сям'ю, —гэта радасьць! А атрымаўшы грошы, пазычае бедным грамадзянам,—удовам, сіротам (бацькі і мужыкі забіты на вайне) за вялікія працэнты, — каб яны плацілі падаткі.

**Перховічанін.**

## Цэнтральная Белар. Школьная Рада

просіць усіх вучыцялёў-беларусаў, якія ня прыслалі да гэтага часу адказу на анкету, пасьпяшыць з прысылкай гэтых адказаў.

Таксама Шк. Рада зьвяртаецца да ўсіх паўнамоцнікаў у справе адчыненьня белар. школаў, якія ня прыслалі копіі прыгавораў сялян аб школе, пасьпяшыць прысланць іх у Школьную Раду бяз увагі на тое, ці прыгавары былі ўрадова сцьверджаны, ці не.

Школьная Рада заінтарасавана падрахункам, як ліку безработных вучыцялёў-беларусаў, так і ліку спробаў адчыненьня беларускіх пачаткавых школаў, дзеля дакладнага аб гэтым паінфармаваньня Міністст. Асьветы.

Адначасна паведамляецца, што да п. Куратара Віленскага Школьнага Вокругу падана просьба з усімі вымаганымі паперамі аб дазволе адчыніць у Вільні гадавыя дапаўніцельныя курсы для вучыцялёў беларускіх пачаткавых школаў.

Падробная інфармацыя аб гэтым будзе абвешчанаў газэце пасьля атрыманьня дазволу.

**Цэнтральная Беларуская Школ. Рада.**

## Беларусы у Чэхаславакіі.

### „Птушка шчасьця“ апэр. у 3 дзеях. Ф. Аляхновіча ў Празе.

10 лістапада с. г. ў Празе, у вялікай салі „Мяшчанскай бяседы“, стараньнямі Беларускага драматычнага гуртка, быў уладжан вечар.

Гэта быў другі крок дзейнасьці гуртка ў Чэхаславакіі і першы крок у Празе. Першы спэктакль адбыўся ў Юзэфове і прайшоў з вялікім пасьпехам. Але гэта было на правінцыі. Вельмі ўсіх цікавіў пасьпех гуртка ў Празе. Звычайна пры пастаноўцы першых спэктакляў або праваліваюцца зусім, або карыстаюцца вялізарным пасьпехам. Выступленьне Беларускага драматычнага гуртка не зрабіла якогась вялікага фурору, але прайшло больш чым сярэдня. Між іншым гэта мажліва добрая адзнака дзеля будучыні гуртка: бяз шуму, але пэўна і цьверда. Саля была запоўнена публікай, рознай па прафэсіі і па нацыянальнасьці. Тут чулася гутарка: беларуская, украінская, расейская і чэская, і, між іншым, апошняя чулася даволі густа, чэхі тварылі вельмі значны працэнт прысутных. Прыемна было пабачыць беларускую хату, хаця на сцэне, пачуць беларускую песьню. Здавалася, што мяжа некалькіх гадоў аддзяляючая беларускую эміграцыю ад Бацькоўшчыны, зьнікла, што яны зноў на бацькаўшчыне, або гдзесь на вёсцы, або ў месьце. Праўда, беларусы прывыклі бачыць на сцэне ў гэтай п'есе паважанага аўтара ў галоўнай ролі і на Віленскай сцэне ў ролі жыда Шчэнсновіча, але бачыўшы ігру аўтара дае магчымасьць больш бачыць памылкі ўчасьнікаў у п'есе. Маланку гуляла А. Случанка, можна сказаць досьць добра. Янку— Б. Карусь і Жыда — В. Цыбуля. Першы занадта аб'чэсаны, ён мог бы добра прэдстаўляць беларускага мужчыну, які нядаўна вярнуўся з гораду, але не селяніна, не цаліну беларускай вёскі. У яго адзначаліся памылкі гэта: ў занадта інтэлігэнтных рухах і часамі якімсь ня вольным трыманьні сябе на сцэне. Жыд зноў меў шмат ня жыдоўскіх рухаў і часамі занадта артыстычны голас, зусім не падаходзячы вясковаму „Іцку“, магутнасьць якога ён здавалася ня раз хацеў паказаць. Агульнае ўражаньне засталося добрае. І калі ўзяць пад увагу, што гулялі не прафэсіянальныя артысты, а аматары — дык трэба сказаць, што згулялі вельмі добра.

Публіка засталася здаволенай і пры кожнай магчымасьці вызывала артыстаў і вітала іх гучнымі воплескамі.

Бачучы першыя крокі Беларускага драматычнага гуртка ў Празе, ня можна не пажадаць яму пасьпеху ў будучай працы.

Чародны спэктакль у хуткім часе адбудзецца ў м. Падэбрадах.

**— Віч.**

## Паштовая скрынка.

**Вяскоўцу і Гаротнаму.** Вашых карэспандэнцый з прычын цэнзурных зьмясьціць ня можам.

**Б з Каліновіч.** Ваша карэспандэнцыя да друку не надаецца.

**Н.** Вашай карэспандэнцыі зьмясьціць ня можам. Матар'ял стары.

## АБВЕСТКІ.



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік**.

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.